
ВАЕННЫ? Я МАЮ НА ЎВАЗЕ... ГЭТА ВАЕННЫ ШРУБАЛЁТ?
ЗДАЕЦЦА, НЕ. МАГЧЫМА ПАЛІЦЭЙСКІ ЦІ ТЭЛЕНАВІН. НЕ ПАДОБНЫ НА ВАЕННЫ.
ЁН ЛЯЦІЦЬ НЕ Ў ТОЙ БОК. НАМ ТРЭБА ПРЫЦЯГНУЦЬ ІХ УВАГУ. ТРЭБА РАЗВЕСЦІ ВОГНІШЧА... ВЯЛІКАЕ ВОГНІШЧА... І ХУТКА.
ШТО МЫ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ? ЗАПАЛІЦЬ АДНУ З ГЭТЫХ МАШЫН? МЫ МАГЛІ Б ВЫКАРЫСТАЦЬ БЕНЗІН... ГЭТА Б ПРЫЦЯГНУЛА ІХ УВАГУ. ГЛЕН, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ІДЭІ?
РЫК, АСЦЯРОЖНА!!


БОЖА!
ХАММНГХ!
WHOP!
ХАММНГГ.
WHROKK!
ШТО З КАС-ЦЮМАМ?
ДЫ НЯДРЭННА.



ПАЧАКАЙ... КУДЫ ЗНІК ШРУБАЛЁТ? ДЗЕ ЁН?
ТАМ!
ОХ, ЛАЙНО... ЁН ПРЫЗЯМЛЯЕЦЦА?
НЕ... ДУМАЮ, ЁН ПАДАЕ!
САЧЫ, КУДЫ ЁН УПАДЗЕ. Я ЗБІРАЮСЯ ЎЗЯЦЬ МАТАЦЫКАЛ... ТУТ НЕ БОЛЬШ МІЛІ ЦІ ДЗВУХ АД НАС... МЫ МОЖАМ ПАЕХАЦЬ ТУДЫ. НАМ ТРЭБА ДАВЕДАЦЦА, ХТО ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ.
НАМ ТРЭБА ВЕДАЦЬ, АДКУЛЬ ЯНЫ ПРЫЛЯЦЕЛІ.
ТОЛЬКІ СКАЖЫ ЎСІМ, КУДЫ МЫ ЕДЗЕМ, А Я ПАКУЛЬ ПАСПРАБУЮ ЗАВЕСЦІ АДНУ З ГЭТЫМ МАШЫН. КАЛІ ТАМ ХОЦЬ ХТОСЬЦІ ЗАСТАЎСЯ ЖЫВОЙ, МЫ НЕ ЗМОЖАМ ПРЫВЕЗЦІ ІХ СЮДЫ НА МАТАЦЫКЛЕ.
САПРАЎДЫ.
ФАЙНАЯ ІДЭЯ.


ШТО ТЫ РОБІШ? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? З ГЛЕНАМ УСЁ ДОБРА?!
ТЫ НЕ БАЧЫЎ ГЭТАГА?!
НЕ БАЧЫЎ ШТО?
ШРУБАЛЁТ. ЁН ЛЯЦЕЎ НА АДЛЕГЛАСЦІ... ПОТЫМ ЁН РАЗБІЎСЯ. ГЛЕН І Я ЗБІРАЕМСЯ ПАЕХАЦЬ ТУДЫ І ПРАВЕРЫЦЬ... МЫ ПАВІННЫ ПАСПЕЦЬ ДА ЦЁМНАГА. Я ПРОСТА ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ ТАБЕ, КАБ ТЫ СКАЗАЎ ПРА ГЭТА ЛОРЫ.
ШРУБАЛЁТ? ЁН БЫЎ ВАЕННЫМ?
НАЎРАДЦІ. НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ТЫ НЕ БАЧЫЎ.
Я БАЧЫЛА.
ХАДЗЕМЦЕ.
ЯК ТЫ...?


НЯЎЖО ТЫ ЛІЧЫЎ, ШТО Я НЕ ЗНАЙШЛА Б ІХ У ДЭЙЛА Ў ФУРГОНЕ? КАЛІ ЛАСКА.
ГЭТЫЯ МЯЧЫ Ў МЯНЕ ЎЖО ТЫДЗЕНЬ. ВЫ МОЖАЦЕ ВЕРЫЦЬ МНЕ.
НА МАЮ ДУМКУ, ГЭТА ДАКАЗВАЕ АДВАРОТНАЕ.
ДАВАЙ РАЗБЯРЭМСЯ З ГЭТЫМ ПАЗНЕЙ. НАМ ТРЭБА АДПРАЎЛЯЦЦА. Я ВЫЖЫЛА ТАМ АДНА. ВЫ НЕ ЗНОЙДЗЕЦЕ НІКОГА ЛЕПШ МЯНЕ, КАБ НАКІРАВАЦЦА ТУДЫ І ВЯРНУЦЦА ЖЫВЫМІ. Я ПАТРЭБНА ВАМ... І МНЕ ТРЭБА ПАПРАКТЫКАВАЦЦА.
МЫ ТУДЫ НЕ ПЕШШУ ІДЗЕМ.
РАБЯТЫ, ВЫ ГАТОВЫЯ?
ХАЦІЦЕ, КАБ Я ТАКСАМА ПАЕХАЎ?
НЕ... ПРОСТА СКАЖЫ ЛОРЫ І АСТАТНІМ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ, І ПАКЛАПАЦІСЯ АБ ІХ. МЫ ВЕРНЕМСЯ НОЧЧУ... І МАГЧЫМА Ў НАС БУДУЦЬ ГОСЦІ.


ТЫ ГЭТА БАЧЫЛА?
ШТО?
МІЧОНІ ТОЛЬКІ ШТО ЎЛЯЦЕЛА Ў СВАЮ КАМЕРУ, СХАПІЛА СВАЁ ПОНЧА І ВЫБЕГЛА. НІКОЛІ НЕ БАЧЫЛА, КАБ ХТОСЬЦІ РУХАЎСЯ ТАК ХУТКА.
УПЭЎНЕНА, ШТО НІЧОГА СТРАШНАГА. НАПЭЎНА, ПРОСТА ДОЖДЖ ІДЗІ ЗВОНКУ.
НЕ ВЕДАЮ. МЯРКУЮ, ЯНА СКАЗАЛА Б, КАЛІ Б ГЭТА БЫЛО ШТОСЬЦІ ВАЖНАЕ.
А ТЫ ЯК? НЕ ЗБІРАЕШСЯ ПЕРАЯЗДЖАЦЬ У БЛОК А?
ХУТЧЭЙ, НЕ. А ТЫ?
НЕ. У НАС ТУТ ДАСТАТКОВА ПАКОЯЎ, НЕ РАЗУМЕЮ, НАВОШТА, ДЭЙЛ І АНДРЭА ПЕРАЯЗДЖАЮЦЬ ТУДЫ З БЛІЗНЯТАМІ. ГЛЕН І МЭГІ ПЕРАЯЗДЖАЮЦЬ, КАБ БЫЦЬ ПАДАЛЕЙ АД ХЕРШАЛА... КАЛІ ЁН ІМ ДАЗВОЛІЦЬ.
НЕ, ДУМАЮ, МЫ ПРОСТА АБЖЫВЕМСЯ ТУТ... ПЕРАЦЯГНЕМ У КАМЕРЫ ЯШЧЭ ТРОХІ МЭБЛІ. ЗРОБІМ ГАСЦЁЎНУЮ. УЛАСНУЮ СПАЛЬНЮ ДЛЯ КАРЛА І ЎСЁ ТАКОЕ.
А ТЫ ЧАМУ НЕ ПЕРАЯЗДЖАЕШ?


ЯНЫ ПЕРАЯЗДЖАЮЦЬ ТУДЫ. НЕ РАЗАМ... АЛЕ АБОДВА. ТАЙРЫС І МІЧОНІ.
А Я ЯК БЫ НЕ ХАЧУ БЫЦЬ ТАМ, ДЗЕ ЯНЫ.
ТЫ БЫЛА Б БЛІЖЭЙ ДА БІБЛІЯТЭКІ.
ЯНО ТАГО НЕ ВАРТА.
ПАВЕР.
НАЎРАДЦІ, ШТО ГЭТА НАСАМРЭЧ МАЕ ЗНАЧЭННЕ, ДЗЕ КОЖНЫ З НАС ЖЫВЕ ЦЯПЕР. ЗАРАЗ У НАС БОЛЬШ ПРАСТОРЫ. МЫ РАЗМЯСЦІЛІСЯ Ў ГЭТЫМ ТУРЭМНЫМ КОРПУСЕ. ВІДАЦЬ, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК МЫ ДОЎГА ЖЫЛІ Ў ГЭТЫМ ЦЕСНЫМ ТРЭЙЛЕРЫ, АДНОЙ КАМЕРЫ НА СЯМ'Ю ЗДАВАЛАСЯ ДАСТАТКОВА.
ЦЯПЕР УСЁ ЗМЯНІЛАСЯ. Я ДУМАЮ, МЫ ЎСЕ ПАЧАЛІ АДЧУВАЦЬ СЯБЕ ТУТ ПАД АБАРОНАЙ. НАПЭЎНА, КАРЛ ЗМОГ БЫ НАВАТ СПАЦЬ ВА ЎЛАСНЫМ ПАКОІ, КАЛІ ЎСЁ ЎЛАДКУЕЦЦА. З УСЁЙ ГЭТАЙ МЭБЛЯЙ З ОФІСАЎ БЛОКА А МЫ ЗМОЖАМ ЗРАБІЦЬ ГЭТАЕ МЕСЦА ЗНАЧНА ПРЫВАБНЫМ.
...І КАЛІ МЫ ЗМОЖАМ ЗАПУСЦІЦЬ ГЕНЕРАТАР... ШТО Ж...
О, Я ВЕДАЮ. Я ЗМАГУ ЧЫТАЦЬ УНУТРЫ... І НОЧЧУ. Я ЗМАГУ ЧЫТАЦЬ У ЛОЖКУ ПЕРАД СНОМ ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ЧЫТАЦЬ ЗВОНКУ, ПРЫТРЫМЛІВАЮЧЫ СТАРОНКІ АД ВЕТРА.
І НЕ ТОЛЬКІ ГЭТА, ЯШЧЭ Ў ІХ БЫЎ DVD У БІБЛІЯТЭКЕ. НЕ ХАЧУ ЦЯБЕ ЗАНАДТА ХВАЛЯВАЦЬ, АЛЕ МЫ МАГЛІ Б ПАГЛЯДЗЕЦЬ ФІЛЬМ ЦІ ДВА.
САПРАЎДЫ?!


ЯК ТЫ ЗАВЁЎ ЯЕ? КЛЮЧЫ БЫЛІ ЎНУТРЫ, ТАК?
ТЫ Ж НЕ ДУМАЕШ, ШТО Я БЫЎ ЗВЫЧАЙНЫМ РАЗНОСЧЫКАМ ПІЦЦЫ, ЦІ НЕ ТАК?
У СЭНСЕ?
Я СЦЯГНУЎ НЕКАЛЬКІ МАШЫН У СВОЙ ЧАС... ТАК. Я НІКОЛІ НЕ АТРЫМЛІВАЎ АД ГЭТАГА ЗАДА-ВАЛЬНЕННЕ. ДОБРА, Я СХЛУСІЎ. ГЭТА БЫЛО ВЕСЕЛА... АЛЕ Я НІКОЛІ НЕ ЖАДАЎ ГЭТАГА. Я НАВУЧЫЎСЯ ГЭТАМУ Ў ШКОЛЕ, ДЗЕЛЯ ЖАРТУ...
Я РАЗУМЕЮ, ТЫ КОП І ЎСЁ ТАКОЕ. ЦІ... БЫЎ КОПАМ. СПАДЗЯЮ-СЯ, ГЭТА НЕ ЗМЯНІЛА ТВАЁ СТАЎЛЕННЕ ДА МЯНЕ.
Я РАБІЎ ГЭТА ТОЛЬКІ КАБ АПЛАЦІЦЬ ЖЫТЛО. РАБІЎ ТОЕ, НА ШТО БЫЎ ЗДОЛЬНЫ.
ІНШЫ ЧАС.
ІНШЫ СВЕТ.
Д'ЯБАЛ, Я САМ СЦЯГНУЎ НЕКАЛЬКІ ПАЛІЦЭЙСКІХ МАШЫН З ПАРКОЎКІ СВАЙГО ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ, КАБ ПРЫЕХАЦЬ ЗА ЛОРЫ Ў АТЛАНТУ.
МЯНЕ АКАЛЯЮЦЬ АДНЫЯ ЗЛАЧЫНЦЫ.


ТЫ БАЧЫЎ, ДЗЕ ЁН УПАЎ? ВЕДАЕШ, КУДЫ НАМ ЕХАЦЬ?
Я ПРОСТА ЕДУ НА ДЫМ ЗА ЛЕСАПАЛАСОЙ... ТАМ ЁН АБРЫНУЎСЯ. НЯЎЖО НЕ БАЧЫШ?
ДЗЕ?
ТАМ.
НАМ ХОПІЦЬ ПАЛІВА ДАБРАЦЦА ТУДЫ?
У НАС АМАЛЬ ПАЎБАКА. ГЭТАГА ХОПІЦЬ, КАБ З'ЕЗДЗІЦЬ ТУДЫ І НАЗАД. З ГЭТЫМ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ПРАБЛЕМ.
ТУТ ТАК ШМАТ ЗОМБІ... І АМАЛЬ УСЕ НАКІРОЎВАЮЦЦА Ў БОК ТУРМЫ, БЫЦЦАМ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ТАМ.


ТАК... ІХ ПАЧЫНАЕ НАКОПЛІВАЦЦА КАЛЯ ПЛОТА ЗАНАДТА ШМАТ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК ПАЦЯПЛЕНА. Я ВОСЬ ДУМАЮ... ПАКОЛЬКІ Ў НАС ЦЯПЕР ЁСЦЬ ГЭТЫЯ КАСЦЮМЫ, МЫ МАГЛІ Б ВЫХОДЗІЦЬ ВОНКІ І ПРЫБІРАЦЦА РАЗ НА ДЗЕНЬ, ПАЧЫНАЮЧЫ З ЗАЎТРАШНЯГА.
НЕ СПАТРЭБІЦЦА ШМАТ ЧАСУ, КАБ ПАЗБАВІЦЦА АД ТЫХ, ШТО ЗАРАЗ ТАМ ЁСЦЬ... А ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ІХ НЕ СТАНЕ, НАМ ЗАСТАНЕЦЦА ТОЛЬКІ ЗАБІВАЦЬ НОВЫХ ХАДЗЯЧЫХ.
ТАК, ГЭТА ПРАВІЛЬНА. РАНЕЙ МНЕ ЗДАВАЛАСЯ, ШТО ГЭТА ПРОСТА МАРНАЕ РАСТРАЧВАННЕ КУЛЯЎ, А ІХ У НАС І ТАК НЕ БЫЛО.
ЗАБІВАЮЧЫ ІХ ЦЕРАЗ ПЛОТ, МЫ ТРОХІ ЗМЕНЬШЫЛІ ІХ КОЛЬКАСЦЬ, АЛЕ НІХТО НЕ РАБІЎ ГЭТАГА СТАЛА. У ГЭТЫХ КАСЦЮМАХ БЫЛО Б БЯСПЕЧНЕЙ РАБІЦЬ ГЭТА.
МАГЧЫМА, МЭГІ І Я МАГЛІ Б ПАЧАЦЬ РАБІЦЬ ГЭТА, КАЛІ МЫ ВЕРНЕМСЯ... ЦІ КАЛІ ЯНА НЕ ЗАХОЧА, ТАДЫ З ОЦІСАМ ЦІ МОЖА З БІЛЛІ.
ЯНА ПАМІРАЛА АД ЖАДАННЯ АПРАНУЦЬ АДЗІН З ГЭТЫХ КАСЦЮМАЎ СЁННЯ.
ВОСЬ ЛАЙНО, ГЛЕН. ГЛЯДЗІ.
ШЛЯХ ПАВАРОЧВАЕ Ў ІНШЫ БОК.
ЛІХА МАЦЬ. Я Ж ВЕДАЎ, ШТО ТРЭБА БЫЛО БРАЦЬ ТРАК.


THUMP!
ГЭТА СТАНОВІЦЦА ПАЦЕШНА.
ВІДАЦЬ, ЗАРАЗ БУДЗЕ ТРОХІ ТРЭСЦІ.
ДЗЯ-КУЙ, ШТО ПАПЯРЭДЗІЎ.
УСЁ... УХ... БУДЗЕ НЕ ТАК ДРЭННА, КАЛІ МЫ ЗМЕНШЫМ ХУТКАСЦЬ.
САПРАЎДЫ, НЕБЛАГАЯ ДУМКА.



ТАК ЛЕПШ? БУДЗЕМ РУХАЦЦА НЕ ТАК ХУТКА, ЗАТОЕ НАШЫЯ МАЗГІ НЕ ПЕРАТВОРАЦЦА Ў ЖЭЛЕ.
ПРОСТА ДАВЯЗІ НАС ТУДЫ.
ДОБРА, З ГЭТЫМ Я НЕЯК ЗЛАДЖУ.
ВОСЬ ЛАЙНО.
МАБЫЦЬ, ІДЭЯ СЦІШЫЦЦА БЫЛА ЎСЁ Ж ТАКІ НЕ ВЕЛЬМІ ДОБРАЙ. ЗДАЕЦЦА МЫ СЕЛІ.
ОКЕЙ.
ПРЫЙДЗЕЦЦА ПРАЙСЦІСЯ.
КАЛІ ХТОСЬЦІ ВЫЖЫЎ ПАСЛЯ АВАРЫІ, СПАДЗЯЮСЯ ЯНЫ МО-ГУЦЬ ХАДЗІЦЬ... БО Я НЕ ЖАДАЮ НЕСЦІ ІХ ДА ТУРМЫ.


ПАКОЛЬКІ ВАШ ТАТА... ПАМЁР... ЦЯПЕР АНДРЭА І Я БУДЗЕМ КЛАПАЦІЦЦА ПРА ВАС. МЫ ЗРОБІМ УСЁ, КАБ ВЫ БЫЛІ СЫТЫЯ І Ў БЯСПЕЦЫ. ПРА ЎСЁ, ШТО ВАМ ТРЭБА.
МЫ НАВАТ ЗБІРАЕМСЯ НАВУЧЫЦЬ ВАС НЕЧАМУ... НУ ЦІ ХАЦЯ Б ПАСПРАБУЕМ.
ГЭТА ТАК, ХЛОПЧЫКІ... ЗАЎТРА МЫ ЗБІРАЕМСЯ ПЕРАЕХАЦЬ У ІНШУЮ ЧАСТКУ ТУРМЫ. І Ў ВАС НАВАТ БУДЗЕ СВОЙ ЎЛАСНЫ ПАКОЙ АДРАЗУ КАЛЯ З НАМІ.
ШТО СКАЖАЦЕ?
КАНЕШНЕ, КАЛІ ВЫ ХОЧАЦЕ... ВЫ МОЖАЦЕ ЖЫЦЬ У ПАКОІ РАЗАМ З НАМІ. МЫ НЕ ХОЧАМ ВАС ПАКРЫЎДЗІЦЬ... ЯК ПАЖАДАЕЦЕ, ТАК І БУДЗЕ.
ВЫ НАШЫЯ НОВЫЯ ТАТУЛЯ І МАТУЛЯ?
НЕ ЗУСІМ... АЛЕ КАЛІ ХАЦІЦЕ... МОЖАЦЕ ТАК НАС ЗВАЦЬ.


ШТО БУДЗЕМ РАБІЦЬ? ЯК ТОЛЬКІ МЫ ВОЙДЗЕМ У ЛЕС, МЫ НЕ ЗМОЖАМ БАЧЫЦЬ ДЫМ. ЯК МЫ ЗМОЖАМ ЗНАЙСЦІ ЯГО?
МЫ ЎЖО НЕДАЛЁКА... УСЁ БУДЗЕ НЕ ТАК СКЛАДАНА. ТЫ Б ЛЕПШ ПАТУРБАВАЎСЯ ПРА ТОЕ, КАГО МЫ МОЖАМ СУСТРЭЦЬ У ЛЕСЕ. ХТО ЗАЎГОДНА МОЖА БЫЦЬ ЗА ЛЮБЫМ З ГЭТЫХ ДРЭВАЎ.
ЧАКАЙ НЕПРЫЕМНАСЦЯЎ... ТЫ ПАВІНЕН АДЧУЦЬ ІХ РАНЕЙ, ЧЫМ ЯНЫ НАБЛІЗЯЦЦА ДАСТАТКОВА, КАБ УКУСІЦЬ.
ДАВАЙЦЕ ПАСПРАБУЕМ РУХАЦЦА ХУТЧЭЙ. СТАНЕ ЦЁМНА РАНЕЙ, ЧЫМ МЫ ВЕРНЕМСЯ НАЗАД... І Я ХАЧУ БЫЦЬ БЛІЖЭЙ ДА ТУРМЫ, НАКОЛЬКІ ГЭТА БУДЗЕ МАГЧЫМЫМ, ПАКУЛЬ НЕ СТАЛА ПА-САПРАЎДНАМУ ЦЁМНА.
НАВАТ СПРАЧАЦЦА НЕ БУДУ.
ЦІШЭЙ.
THUNK!


ДЫК ЧЫМ ТЫ НА САМОЙ СПРАВЕ ЗАЙМАЛАСЯ РАНЕЙ? НІКОЛІ НЕ ДУМАЎ, ШТО НІНДЗЯ ДОБРА ЗАРАБЛЯЮЦЬ.
САМУРАІ ІХ УСЁ ЯШЧЭ НАЙМАЮЦЬ?
Я БЫЛА АДВАКАТАМ.
НАВАТ НЕ ЗДЗІЎЛЕНЫ.
ШМАТ ФЕХТАВАЛА Ў ОФІСЕ?
ФЕХТАВАЛА ТРОХІ, КАЛІ БЫЛА МАЛЕНЬКАЙ. ПОТЫМ ФЕХТАВАЛА Ў КАЛЕДЖЫ... ДАВОЛІ НЯДРЭННА. ГЭТА БЫЎ ДОБРЫ СПОСАБ ПАСЛАБІЦЦА, КАЛІ МНЕ БЫЛО СЯМНАЦЦАЦЬ.
СУСЕДСКІ СЫНОК, СА СТАРЭЙШЫХ КЛАСАЎ, ПА ВУШЫ НАБІТЫ ЛАЙНОМ БЫЎ ЗВАР'ЯЦЕЛЫ АД МЯЧОЎ. У ЯГО БЫЛІ ЎСЕ ВІДЫ ГЭТАЙ ЗБРОІ. ЁН ЗАЎСЁДЫ ТРЫМАЎ ІХ ЗАМЕНЧАНЫМІ. КЛЯНУСЯ, ЁН ЗАБІЎ НАШУ КОШКУ... МЫ ТАК НІКОЛІ І НЕ ЗНАЙШЛІ ЯЕ,... АЛЕ Я ВЕДАЮ, ГЭТА БЫЎ ЁН.
КАЛІ ЗДАРЫЛАСЯ ЎСЁ ГЭТАЕ ЛАЙНО... ПЕРШАЙ СПРАВАЙ Я ПАЙШЛА ДА ЯГО ДОМУ І ЗАБРАЛА ЯГО РЭЧЫ. ГЭТА БЫЛО ПРАСЦЕЙ, ЧЫМ ШУКАЦЬ ПІСТАЛЕТ... І НЕ ПРЫЦЯГВАЯ НІЯКАЙ УВАГІ ДА МЯНЕ.
РАЗУМЕЮ ЦЯБЕ. Я ВЫКАРЫСТОЎВАЮ СЯКЕРУ... У ТАЙРЫСА МАЛАТОК.
ТРЭБА ЗВЫКНУЦЦА З ГЭТЫМ, ВЕДАЕШ... КУЛІ КАЛІ-НЕБУДЗЬ СКОНЧАЦЦА.
ТЫ ПАВІНЕН ПАГУТАРЫЦЬ З ІМ.
Я МАЮ НА ЎВАЗЕ ТАЙРЫСА.
АБ ЧЫМ?
ТЫ СУР'ЁЗНА?



РРРРЫХ!
SVAASH!
FWUMP!
Я ЛІЧУ, ТЫ ПАВІНЕН ПАГУТАРЫЦЬ З ТАЙРЫСАМ.
THUNK!
УХ... ДОБРА.
ЧАМУ ТЫ ТАК ЛІЧЫШ?
Я ВЕДАЮ, ШТО ВЫ АБОДВА РОБІЦЕ. ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ РАЗДРАЖНЯЕЦЕ АДЗІН АДНАГО... ВЫ БОЛЬШ НЕ СЯБРЫ, АЛЕ ВЫ РАЗМАЎЛЯЕЦЕ. ВЫ АБОДВА ПАВОДЗІЦЕ СЯБЕ, БЫЦЦАМ УСЁ СТАЛА, ЯК РАНЕЙ.
АЛЕ ГЭТА НЕ ТАК.
СПРАВА Ў ТЫМ, ШТО ТЫДЗЕНЬ НАЗАД У ТАЙРЫСА ТУТ БЫЛО ЎСЯГО ДВА БЛІЗКІХ ЧАЛАВЕКА... КЭРАЛ І ТЫ. А ЗАРАЗ ЁН МАЕ СТАСУНКІ СА МНОЙ, АДНАК МЫ ВЕЛЬМІ ДРЭННА ВЕДАЕМ АДЗІН АДНАГО.
ЁН БЫ ПАПРАСІЎ ПРАБАЧЭННЯ, КАЛІ Б НЕ БЫЎ ТАКІМ УПАРТЫМ. ДУМАЮ, ШТО ТОЕ Ж САМАЕ МОЖНА СКАЗАЦЬ І ПРА ЦЯБЕ. ВЫ РАБЯТЫ ЗАНАДТА ПАДОБНЫЯ, КАБ ДАВОДЗІЦЬ ДА ШАЛЕНСТВА АДЗІН АДНАГО ЗАЎЖДЫ.


МАГЧЫМА.
АДНАК ПАВІНЕН ЗАЎВАЖЫЦЬ... Я НЕ ВЕДАЮ, ЗА ШТО Я ПАВІНЕН ПРАСІЦЬ ПРАБАЧЭННЕ Ў ЯГО. ЁН ПЕРШЫМ ПАЧАЎ УСЁ ГЭТА.
Я НЕ НЕНАВІЖУ ЯГО... БАЧЫЦЬ БОГ, МЫ ЦУДОЎНА ЛАДЗІЛІ НЕКАТОРЫ ЧАС. А ШТО ЗДАРЫЛАСЯ МІЖ ТАБОЙ, ІМ І КЭРАЛ, ГЭТА ВЕРАГОДНА НЕ МАЯ СПРАВА.
ПЭЎНА Я ПАГАВАРУ З ІМ ЗАЎТРА.
Я ЦАНЮ ГЭТА.
РАБЯТЫ... ГЛЯДЗІЦЕ.
ЗНОЎ БАЧНЫ ДЫМ.
ВІДАЦЬ, МЫ ЗУСІМ БЛІЗКА.


Д'ЯБАЛ!
ЁН ЗНОЎ ГЭТА ЗРАБІЎ СА МНОЙ!
ЛОРЫ, СУПАКОЙСЯ... ГЭТА НЕ ДОБРА ДЛЯ ДЗІЦЯЦІ. З РЫКАМ УСЁ ДОБРА... УПЭЎНЕНА, ЁН ХУТКА ВЕРНЕЦЦА.
ЁН? Я НЕ БАЧУ ЯГО... Я НІЯК НЕ ЗМАГУ ДАВЕДАЦЦА, ШТО ЁН ВЯРНУЎСЯ... КАЛІ ЁН ВЕРНЕЦЦА... ЗНОЎ! ГЭТА ЎЖО ЗАНАДТА ДЛЯ МЯНЕ.
ЁН МОГ ПАСЛАЦЬ КОЛЬКІ ЗАЎГОДНА ЛЮДЗЕЙ, КАБ ПРАВЕРЫЦЬ ГЭТЫ ІДЫЁЦКІ ШРУБАЛЁТ, ШТО ПАВАЛІЎСЯ! ЁН НЕ ПАВІНЕН БЫЎ ІСЦІ САМ!!!
ОХ!
АЙ!
ТЫ Ў ПАРАДКУ? ГЭТА ДЗІЦЯЦІ? ДЗЕ БАЛІЦЬ?!
ГЭТА НІЧОГА. ПРОЙДЗЕ.
ТОЛЬКІ... МОЖАШ ЗАБРАЦЬ КАРЛА І САФІЮ З КАМЕРЫ ДЭЙЛА І АНДРЭІ? ЯНЫ ТАМ УЖО ВЕЛЬМІ ДОЎГА. УЖО ЧАС КЛАСЦІ КАРЛА СПАЦЬ.
ТАК. Я ПРЫВЯДУ ІХ... ПРАЗ ХВІЛІНУ.
ЁСЦЬ УХ... НЕШТА, ПРА ШТО Я ХАЦЕЛА СПЫТАЦЬ ЦЯБЕ ДА ТАГО, ЯК ЯНЫ ВЕРНУЦЦА.


ПРА ШТО. КЭРАЛ?
Я БЫЦЦАМ БЫ ХАЧУ АЖАНІЦЦА НА ЦЯБЕ.
НЕ ТОЛЬКІ З ТАБОЙ, РАЗУМЕЕШ... З ТАБОЙ І РЫКАМ. ПРОСТА ВЫСЛУХАЙ МЯНЕ... ГЭТА НЕ ТАК ВАР'ЯЦКА, ЯК ГУЧЫЦЬ. Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, Я ДУМАЛА ПРА ТОЕ, ШТО СКАЗАЎ РЫК, РАЗУМЕЕШ... ПРА ТОЕ, ШТО НІЧОГА ЎЖО НЕ БУДЗЕ, ЯК РАНЕЙ І ШТО МЫ ПАВІННЫ ПАЧАЦЬ НОВАЕ ЖЫЦЦЁ.
ПРОСТА ГЭТА ВАЖНА ДЛЯ МЯНЕ. Я ЛЮБЛЮ ВАС АБОДВУХ, МЫ МАГЛІ Б ВЫХОЎВАЦЬ КАРЛА, САФІЮ І НОВАГА ДЗІЦЯЦІ РАЗАМ. Я ВЕДАЮ, ГЭТА ПАДАЕЦЦА ДЗІЎНЫМ ЗАРАЗ, АЛЕ МЫ НЕ ПАВІННЫ РАБІЦЬ ТАК, ЯК РАНЕЙ. МЫ САМІ МОЖАМ СТВАРАЦЬ НОВЫЯ ПРАВІЛЫ.
МЫ МОЖАМ БЫЦЬ УСЕ ШЧАСЛІВЫ РАЗАМ.


ВОСЬ ЁН... БАЧЫЦЕ?!
ВІДАЦЬ, У ІХ АТРЫМАЛА-СЯ ПРЫЗЯМЛІЦЦА Ў ГЭТЫ НЕВЯЛІКІ РАЎЧУК... БРУД, ПЭЎНА, ЗМЯКЧЫЎ УДАР.
ТЫ КАГОСЬЦІ БАЧЫШ?
НЕ... НІКОГА ТУТ НЯМА... ЯНЫ НЕ МАГЛІ ВЫСКАЧЫЦЬ З ШРУБАЛЁТА, ЗГОДНЫ?
НЕ ДУМАЮ... ХАЦЯ, ХТО ВЕДАЕ. ДУМАЕШ, ЗМО-ЖАШ ЗАЛЕЗЦІ ТУДЫ? МЫ ПАВІННЫ ВЫСВЯТЛІЦЬ, ЧЫЙ ГЭТА ШРУБАЛЁТ І АДКУЛЬ ЯНЫ ПРЫЛЯЦЕЛІ.
УПЭЎНЕНЫ, Я ЗМАГУ ЗАПАЎЗЦІ ТУДЫ.


СТОЙ!
ШТО... ШТО ТА-КОЕ?!
ГЛЯДЗІ ЎНІЗ. СЛЯДЫ НОГ... ІХ МНОГА.
І ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?


ХТО Б НІ БЫЎ У ГЭТЫМ ШРУБАЛЁЦЕ... ІХ ХТОСЬЦІ ЗАБРАЎ.
ХТОСЬЦІ, ХТО БЫЎ БЛІЖЭЙ, ЧЫМ МЫ...
ПРАЦЯГ НА ComicsBY.by БУДЗЕ!

